Год IV. Кастрычнік № 10 (45).

# Шлях Моладзі

...„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 10:

1. Мэты і заданьня ўзгадаваньня — Я. Н.; 2. Крыху з нашай гісторыі — В. Г.; 3. Ашчаджаймо — Я—к.; 4. Ab kulturnych formach žyćcia — V. S.; 5. З васеньніх малюнкаў — Я. Вількоўшчык; 6. „Адказ“ — Я. В.; 7. Сонэт — Грынкоўскі; 8. Vučań Iks-Igrykievič — V. Adv.; 9. * * * — Хведар Ільяшэвіч; 10. На меставым бруку...— Ч. А.; 11. Šrom — J. B—na; 12. Jak być zdarovym— stud. med. J. M.; 13. Da nas pišuć; 14. Хроніка; 15. Наша пошта.

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C. c |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — E, e. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | S, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł, ł — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 6 — 10.

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год IV. | Вільня, Кастрычнік 1932 г. | № 10 (45). |
| --- | --- | --- |

## Мэты і заданьні ўзгадаваньня.

Бадай усе культуральныя бацькі стараюцца даць сваім дзяцём ня толькі магчымасьць жыцьця ў сэнсе матэрыяльным, г. зн. каб яны мелі гаспадарку, маемасьць, былі багатыя, або каб здабыўшы навуку, фах, мелі магчымасьць зарабляць грошы на жыцьцё, але так-жа стараюцца даць ім добрае моральнае ўзгадаваньне, каб дзеці іхныя вырасшы ўмелі жыць палюдзку, культурна, каб жылі і працавалі ня толькі для свайго асабістага дабра, але, каб у разе патрэбы памагалі сваім бліжнім і былі здольнымі працаваць на ніве грамадзкай, для агульнага дабра.

У нас, беларусаў, паміма таго, што ўсім бадай як морально, так і матэрыяльна жывецца цяжка, гэтага апошняга няма. Нашы бацькі, праўда, стараюцца запэўніць сваім дзеткам быт матэрыяльны, але толькі з пункту гледжаньня асабістага і на духовую, моральную, грамадзкую старану зусім мала зварочваюць увагу. Яны зусім забываюць (можа робяць гэта і нясьведама), што калі кожны з нас толькі будзе дбаць выключна аб сваім асабістым матэрыяльным жыцьці, не зварочваючы ўвагі на жыцьцё сваіх бліжніх і на жыцьцё духовае, грамадзкае, дык сапраўды нічога не здабудзе, сваіх патрэбаў не задаволіць ніколі і на сьвеце дабра ня будзе.

Дзеля гэтага ня можна і дзівіцца, што моладзь наша, ходзячы самапасам, п'янствуе, разьбіваецца, да культурнае, грамадзкае працы няздольная — і што шмат дзе яшчэ ў нас беларуская народная ніва ляжыць дзірваном. Праўда, ёсьць у нас і такія людзі, што вельмі горача і ідэйна бяруцца да культурнае, грамадзкае, адраджэнскае, беларускае працы, але гэта адзінкі з большым прыродным розумам і здольнасьцямі. Большасьць, ня маючы ў гэтым кірунку ўзгадаваньня, грамадзкімі справамі ня цікавіцца і фактычна ані цяпер, ані пасьля, калі вырасьце, не бярэ ўчасьця ў жыцьці, не пастанаўляе аб сваім лёсе. Кажа — „абыйдзецца там і без мяне", — і сам сядзіць у хаце, наракае на цяжкое жыцьцё і чакае, каб для яго і за яго зрабіў нехта нешта лепшае.

Так аднак ды яшчэ ў часе адраджэнскага руху, не павінна быць. Беларуская моладзь іменна павінна атрымаць такое ўзгадаваньне, каб здольнай была працаваць ня толькі для свае ўласнае выгоды, але для агульна-народнага дабра, бо ў гэтым толькі зарука палепшаньня ейнай долі і ўсяго беларускага народу. Дзеля таго-ж, што можа бацькі нашы і ня ўсе здольныя даць нам такое ўзгадаваньне, моладзь павінна сама за гэта ўзяцца, павінна працаваць сама над сваім узгадаваньнем і ўсьведамленьнем, а тыя ўсе, што разумеюць патрэбу гэтага, павінны памагаць сваім слабейшым братом.

Праўда, самаўзгадаваньне і самаўсьведамленьне гэта рэч і лёгкая і трудная адначасна, бо кожны пасвойму разумее і тлумачыць дабро і дасканальнасьць. Але аднак пэўная мерка ёсьць і можна ўсёж-дыкі разрозьніць дабро ад зла. А разрозьніўшы гэтыя два аснаўныя паняцьці і ўзбудзіўшы ў сабе волю, мы можам разьвіць у сабе ўпадабаньне да рэчаў і паступкаў прыгожых, сьветлых, высокіх і добрых, а агіду — да нізкіх, нягодных, цёмных і няпрыгожых.

Перажываючы і разрозьніваючы гэта, мы ўсьведамімся і ўзгадуемся на добрых грамадзян і дойдзем іменна да таго, што трэба дбаць ня толькі аб сваім асабістым і матэрыяльным дабры, але аб дабры агульна-народным і духовым. Зразумеем мы так-жа тады лёгка, як вельмі трэба нам усім супольна вясьці беларускую культурна-прасьветную, народную, адраджэнскую, незалежніцкую працу.

Я. Н.

# Крыху з нашай гісторыі.

## Змаганьні за самастойнасьць Вял. Княства.

Пасьля прыняцьця Казімерам Ягайлавічам польскае кароны, змаганьне паміж палякамі і грамадзянамі В. Кн. Літоўскага трывала далей. Прычынай гэтага змаганьня былі тыя-ж самыя землі, якія Польшч хацела канешна далучыць да сябе: Валынь і Падольле. Каб выраўняць пагляды і правы аднэй стараны і другое на гэтыя землі, а так-жа, каб умацаваць унію паміж дзьвюмя дзяржавамі, быў склікаӯны ў 1448 г. сойм у Любліне. Тут прадстаўнікі В. Кн. Літоўскага дамагаліся, каб унія мела выгляд толькі абаронна-наступальнага саюзу, пры поўнай незалежнасьці кожнай дзяржавы. Прадстаўнікі В. Княства заявілі, што яны пакрыўджаны самым тэкстам уніі, дзе ёсьць такія словы як incorporamus (wcielamy), adiungimus (далучаем) і дамагаліся выкінуць гэтыя і падобныя ім словы з тэксту уніі, бо з гэтых слоў вы-

глядае, што В. Княства йдзе ў падданста, а не ў саюз з Польшчай. Апроч гэтага В. Княства дамагалася звароту частак Валыні і Падольля, захопленых палякамі ў трывожны час пасьля сьмерці Вітаўта.

Палякі на гэта адказвалі, што ўсе спрэчкі выходзяць толькі з тэй прычыны, што В. Княства ня хоча злучыцца з Польшчай і падавалі „радыкальны“ спосаб зьніштажэньня ўсіх спрэчак: няхай абедзьве дзяржавы злучацца ў адну дзяржаву, г. зн. ў карону Польскую, няхай скасуецца нават сам назоў В. Кн. Літоўскага і ягоныя правінцыі няхай стануцца часткамі Польшчы, як землі Кракаўская, Сандамірская, Серадзкая і іншыя, няхай грамадзяне В. Княства зробяцца падданымі каралеўства Польскага і тагды ня будзе за што спрыцць і калаціцца...*) Спосаб, паданы палякамі, быў сапраўды „радыкальны і пэўны“, але ён на мог быць прыняты прадстаўнікамі В. Княства, каторыя заявілі, што страціць сваю незалежнасьць, сваю славу, сваё імя і сваю дзяржаву яны ўважаюць за вялікую ганьбу для сябе.

На гэтакіх спрэчках перагаворы прарваліся, не давёўшы да ніякіх рэзультатаў.

Такія перагаворы і пры гэтым гарачыя спрэчкі адбываліся йшчэ няраз, на каторых прадстаўнікі В. Княства йшлі яшчэ далей; яны дамагаліся выкасаваньня абражлівых слоў у Ягайлавай уніі, як jugo servitutis abnoxios (падлеглых ярму няволі), invisceramus (нутрана далучаем), apprоpriamus (далучаем як уласнасьць) і г. д., аднак палякі ня ўступалі. Быў час, што паміж В. Княствам і Польшчай вайна вісела на валаску, але пачынаць вайну баялася і адна старана і другая. Польшч была зьвязана войнамі з туркамі, крыжаносцамі і татарамі, а Літва — з татарамі і прадусім з Масквою. Апроч гэтага ў В. Княстве пачынаецца вялікі нутраны нялад і падзел, выкліканы р э л і г і й н а ю уніяю. Праціўнікі гэтай уніі, праваслаўныя князі і баяры шукаюць толькі зручнае часіны, каб адыйсьці ад В. Княства, а далучыцца да Масквы, якая ад часу заваяваньня туркамі Канстантынопаля (1453) высоўваецца на адзіную заступніцу і абароньніцу ўсходняга праваслаўя.

Пры такіх абставінах ані адна старана, ані другая ня рвуцца ані да вайны, ані да поўнага разрыву і нават, пад націскам вонкавых сіл, стараюцца аднавіць Гарадлянскую унію з 1413 г. Гэта абноўка наступіла у гадох 1499 і 1501, ужо па сьмерці Казімера Ягайлавіча (1492 г.), за ягонага сына Александра. Паводле гэтай „абноўленай“ уніі баяры В. Княства не маглі выбіраць для сябе князя, а толькі разам

*) Як-жа гэтыя словы прыпамінаюць цяперашнія прапановы бэбэхаўскіх двеяч.ў, як нябошчыка Голувкі, Мацкевіча і інш.! Відаць, дух польскіх палітыкаў ня зьмяніўся.

з палякамі—аднаго караля для Польшчы і Літвы. Але слабая сіла была ў гэтых усіх абновах, бо па сьмерці Александра беларуска-літоўскае баярства бяз ведама палякоў выбірае В. Князя ў асобе Жыгімонта. Паляком не асталося нічога іншага зрабіць, як выбраць таго-ж самага Жыгімонта і сваім каралём. Гэтае самае было і пасьля сьмерці Жыгімонта Старога з выбарам Жыгімонта Аўгуста, апошняга з роду Ягайлавічаў.

Пры Жыгімонце Старым ізноў вяліся перагаворы аб поўнай уніі паміж В. Княствам і Польшчай. Гэтыя перагаворы былі вельмі характэрныя для тагачасных адносін В. Княства да Польшчы, што аб іх пагаворым абшырней.

Гэта было ў 1526 годзе. Паны-Рада, даведаўшыся аб тым, што Рымскі Папа быццам мае даць каралеўскую карону Маскоўскаму князю, выслалі паслоў да Жыгімонта Старога з просьбай, каб ён не прапусьціў кароны праз Польшч, бо як палякі ня пусьцілі кароны для Вітаўта, гэтак сама могуць яе ня пусьціць і для Маскоўскага князя... Апроч гэтага паслы Рады В. Княства даказвалі каралю, што прапусьціўшы карону ў Маскву, палякі будуць дзяржаць В. Княства ў паніжэньні, каб яго тым лягчэй далучыць да польскае кароны. Каб гэтага ня сталася, паслы прасілі караля затрэбаваць ад польскіх паноў тую карону, якую яны былі перанялі некалі ў Вітаўта і каранаваць ею каралевіча Жыгімонта Аўгуста на караля Літвы. Тагды палякі — казалі паслы — ня будуць мець ніякай прэтэнсіі і магчымасьці далучыць да Польшчы В. Княства, бо „коруна въ коруну втѣлена быти не може“, але будзе паміж дзьвюма дзяржавамі роўнае брацтва і прыязьнь процію ўсіх ворагаў. А калі польскія паны ня выдадуць тае кароны, то няхай кароль пашле да папы па новую карону, а баяры В. Княства не пашкадуюць на гэта належных коштаў... Гэтак казалі паслы.

Аднак усе гэтыя стараньні асталіся без рэзультату: літоўска-беларускім баярам дастаць кароны для свайго В. князя так і не ўдалося, палякі паралiжавалі ўсе іх пляны і намеры.—Мы знарок даўжэй затрымаліся на гэтым змаганьні паміж В. Княствам і Польшчай, каб паказаць, як моцна і рашуча, як настойліва і ўпарта змагаліся прадстаўнікі В. Княства з палякамі за незалежнасьць і самастойнасьць свае дзяржавы аж да Люблінскай уніі, паводле каторай яны страцілі гэту незалежнасьць. Значыць, паміма ўсіх спроб за Казімера і яго сыноў: Александра і Жыгімонта Старога да зьдзейсьненьня уніі, якая была падпісана і існавала на паперы, **В. Княства праз увесь час ад Крэўскай уніі аж да Люблінскай de facto аставалася незалежнай дзяржавай.** Але і ў змаганьні за сваё існаваньне В. Княства было пакінута палякамі сваім уласным сілам, а сілы гэтыя, як мы ўжо бачылі, дзякуючы нутраным нямадам,

былі слабыя. Нутраныя труднасьці прывялі В. Княства да глыбокіх рэформаў нутранага жыцьця. Такі доўгі і гарачы спор з Польшчай не прайшоў бяз сьледу для гісторыі В. Княства. Як скутак гэтых спораў было пакліканьне да жыцьця новай установы ў В. Княстве: **Вялікага Вольнага Сойму.** Дагэтуль усе дзяржаўныя справы вырашала **Рада В. Княства**, зложаная з магнагаў і значнейшых баяр, а да Вялікага Вольнага Сойму паклікалі ўжо і баяр-шляхту. Вялікі Вольны Сойм склікаўся дзеля выбараў В. князя і дзеля вырашэньня ўсіх важнейшых спраў дзяржавы. Да Жыгімонта Старога паклікалі толькі значнейшых баяр, а ад Жыгімонта Ст.—нават дробную шляхту. Гэтая рэформа мела сваё значэньне ня толькі для нутранога жыцьця В. Княства, але і вонкавага: як мы ўжо казалі прошлы раз, дробная шляхта пёрла да поўнай уніі з Польшчай, процiў чаго выступала арыстокрацыя. А сялянства тагды ня мела ніякага голасу, яно адбывала паншчыну і было рабочым быдлам, празначаным не да кіраваньня дзяржавай, а да працы на сваіх паноў.

**В Г.**

**Папраўка**. У прошлым 9 (44) нумары „Ш. М.“, у стацьці „Крыху з нашай гісторыі“, праз недагляд папалі такія памылкі: у другім радку ад пачатку замест „Кейстутавічамі“ трэба „Кейстутавічам“, і ў вынашцы (унізе старонкі) надрукавана „Соўкі“ а трэба „Соські“.

---

# Ашчаджайма!

Сучасны гаспадарчы крызыс ахапіў бадай усіх і кожнаму даўся ў знакі. Дзеля гэтага бадай усе людзі шукаюць дарог, каб як-небудзь ад яго асвабадзіцца; шукаюць і радзяць. Калі ўсе спосабы аднак не давялі да добрых вынікаў, сьвятлейшыя людзі вярнуліся да самых сябе і сказалі, што найлепшым спосабам ратунку ёсьць самым думаць аб сваім заўтра і з гэтай мэтай адкладаць хоць малы грошык, пры працы не ляніцца і час на пусьцячыну не марнаваць. Калі гэтак зробіць пяты-дзесяты-соты-тысячны, калі гэтак будуць рабіць усе, то з гэтага ўзрасьце дабрабыт кожнага паасобку і ўсіх разам.

Гэтак паўстала думка агульнай ашчаднасьці, адсьвяткаваць якую першы раз сабраліся людзі ў Італіі, у м. Мілане, у 1924 г. 31 кастрычніка. За гэтым прыкладам пашлі і іншыя і сягоньня ўжо дзень 31-га кастрычніка лічыцца Днём Міжнароднага Сьвята Ашчаднасьці, у часе якога копэратыўна-гаспадарчыя, культурна-прасьветныя арганізацыі ладзяць лекцыі, знаёмяць шырэйшыя масы з ашчаднасьцёвай думкай.

У нас беларусаў у сучасны мамэнт сапраўды трудна

гаварыць аб ашчаднасьцях, бо і так, як кажуць, кожны ледзь канцы з канцамі зводзіць, а бывае нават і бяз гэтага. Але аднак бліжэй прыгледзіўшыся можна заўважыць, што ўсё-ж-такі ў нас людзі шмат што робяць не па думцы ашчаднасьці.

І так, паміма таго, што цяжка жывецца, людзі нашы, а перадусім моладзь знаходзяць грошы на гарэлку, тытун, гучныя забавы, вясельлі і іншыя фамілійныя ўрачыстасьці, на „бліскучую" тандэнту, бязвартасную крамніну і пушчаюць іх безкарысна. Апроч гэтага нашы паля, сенакосы, выганы вельмі часта патрабуюць мэліорацыі, а гаспадары ходзяць з хаты ў хату кураць, у карты гуляюць, а загону свайго не паруляцца давясьці да парадку.

Здаецца гэта ўсё малыя рэчы і няма тут на чым ашчаджаць, а аднак з малога йдзе да вялікага і калі-б мы на гэтых малых рэчах зачалі ды паступова іх праводзілі ў жыцьцё, то бязумоўна кончылі-б на вялікіх.

Дзеля гэтага пажадана, каб беларуская моладзь, прыняўшы пад развагу прыгожыя і разумныя ашчаднасьцёвыя думкі, пачала праводзіць іх у жыцьцё, каб перастала пушчаць грошы на нішчачую яе здароўе, а часта і зусім руйнуючую гарэлку, тытун, на безпатрэбныя розныя ўрачыстасьці,— кіруючы гэтыя грошы на іншыя лепшыя мэты; каб перастала насіць тандэтную крамніну, а ўбіралася ў свае ня брыдчэйшыя ад крамніны самадзелы і не марнавала таксама вольнага часу, а разумна выкарыстывала яго для палепшаньня сваіх гаспадарак, здабываючы пры гэтым больш веды, чытаючы добрыя кніжкі і газэты.

Я—к.

---

# Ab kulturnych formach žyćcia.

## „Što kažuch, to nia vata"...

Dražlivaje heta pytańnie dla moładzi, asabliva dla žanočaj jejnaj pałaviny. Ale što-ž zrobiš: nie ab samych-ža pryjemnaściach tut pisać. Tymbolš siahońnia, kali zhaleŭšuju našu viosku aharnuŭ niejki šał kuplańnia za apošni, a navat i pazyčany hroš roznaj „kramnaj" tandety. Baćki literalna haładujuć, zapuskajuć haspadarku, admaŭlajuć sabie najnieabchadniejšych patrebaŭ, nia majuć za što ratavać zdaroŭja ŭ chvarobie, u niaščaści, — ale dočkam kuplać jadvaby, futry, kapialušy i hetamu padobnaje barachło starajucca z usich sił...

Ale jość tut reč jašče horšaja: što baćki hatovy addać svaim dziaciom apošniaje z taho, što majuć ci mieć spadziajucca, — u hetym kaniec-kancoŭ dziva nievialikaje: dzieje tut jak baćkaŭski (matčyn) instynkt, tak i miarkavańni razumovy-

ja — inšaja reč, ci hetyja apošnija pravilnyja ci z hruntu falšyvyja. Dziŭniej adnak toje, što sama moładź, pieradusim — dziaŭčaty byccam zhubiii ŭsiakaje pačuccio miery i ŭpadabańnia što da ŭboraŭ u siańniašnija hetak ciažkija časy. To-ž padumać, kab kupić „modnaje“ palto, treba siahońnia pradać dźvie karovy, a to jašče i bolej. A dašuŝcy, — choć-by što: palto — davaj, jadvabnyja pančochi — davaj, šali—chustki — davaj, lakierovanyja čaraviki — davaj i tak biez kanca. Na ŭsio heta treba vypradać pałovu haspadarki, a sprabuj nie pasłuchać — ślozy, narakańni, nia raz navat praklony i pahrozy — hatovaje piekła... Hdzie-ž tut miera, a prynamsia — rozum, nie havoračy ŭžo ab guście i zrazumieńni, čym kirujecca ŭsieŭładnaja moda, jakaja hetak abdziraje najbiadniejšaje siańnia sialanstva?

Pačniom ad apošniaha. Modu dyktuje i źvierchu nakidvaje miesta, a ŭłaściva — fabryki ŭsiakaj adziežy i abutku. Hetyja fabryki, kali pierasyciać rynak svaimi tavarami, vydumoŭvujuć niešta „novaje“ i kryklivaj reklamaj „uhavaryvajuć zďarovamu chvarobu.“

Što adnak atrymoŭvujecca?— A voś: miesta, kali i vydatkujecca na hetkuju modu, dyk jano, prynamsia z bolšaha, paśpiavaje za jejnym „krykam“. Zusiom inšaja sprava z vioskaj. Siudy, zvyčajna, „moda“ dachodzić spaźniŭšysia, tak što vioska, vydajučy na jaje apošni svoj hroš, atrymoŭvuje ŭzamien nia „modu“ — bo ŭ mieście jana ŭžo pierastała być modaj, adžyła,—a tolki zvyčajnyja, nikomu ŭžo niepatrebnyja abnoski. Ci-ž heta nie naśmieška nad vioskaj i to naśmieška horkaja?!

Druhaja reč u tym, što kožnaj pracy adpaviadaje i vopratka. Dla tych ludziej, što pry pracy siadziać u suchu, u čystacie padchodzić vopratka i abutak z materyjału lohkaha. Jak-ža dzivačna adnak vyhladaje čałaviek apranieny ŭ takuju-ž lohkuju (kramnuju) vopratku i pastaŭleny da pracy tak hruboj, jak praca ŭ ziemlarobstvie. I dzika i licha: tut jana raz —dva padziarecca, zamažycca, a ŭ kožnym razie jak—vidziš znosicca. A hrošy na jaje vydany.

Jak niezraŭnana razumniej i lepš-by było, kali-b volny ad pracy ŭ haspadarcy čas vykarystoŭvaŭsia na pryhatavańnie samadziełaŭ i z ich šyłasia vopratka! I biezraboćcia nia było-b i hroš-druhi vydavany na kramninu abo astaŭsia-b u kišani, abo i vydatkavaŭsia-b na rečy bolš karysnyja i patrebnyja. Tymbolš siahońnia, kali miesta navat pačało canić samadzieły, nia možna ad ich uciakać vioscy. Asabliva-ž z nastańniem zimy kožny musić viedać—i daviedajecca,—što nijakija „modnyja“ polty ŭ našym zimnym biełaruskim klimacie nie zastupiać našaha pryhožaha, vyhodnaha i ciopłaha kažucha. Vioscy — viaskovoje, bo „što kažuch, to nia vata“...

*Z. Z.—čanka.*

# Літэратурны аддзел.

## З ВАСЕНЬНІХ МАЛЮНКАЎ.

Позны ўсяго час. Навакол зелянее
Руні азімае сельскі абшар.
Толькі адзін шнур на гонях чарнее,
Што не абсеяў яго гаспадар.
Мо' захварэлі рабочыя рукі?
Можа скаціна падохла яму?
Не! Каб шчасьліўшымі сталіся ўнукі,
Ён, змагар долі, пайшоў у турму.

**Язэп Вількоўскі.**

## „АДКАЗ".

—„Жыві з ваўкамі так, як ўсе ваўкі жывуць:
Калі завые воўк, то воўкам адзывайся."—
—Так часам мне з сялян парадзіць хто-ня-будзь:
Да роду, значыцца, свайго не прызнавайся.

Аднак-жа я, глухі на прапазыку іх,
Да воўка моваю сваею абазвуся;
Не прамяную я яе дзеля другіх,
З ёю зрадзіўся я, і з ёю астануся.

І роднае яе ня кіну ў час благі,
Хоць-бы яна была зварушана трывогай;
Да сьмерці не зьвярнуць мяне на шлях другі,
Я—бацькаўшчыны сын — брыду яе дарогай.

**Я. В.**

## СОНЭТ.

Канае дзень, гляджу ў вакно панура,
Апошні промень сонца шле праз краты.
Як быццам хоча мне вярнуці страты...
Зьнікае за шчытом вастрожных мураў.
І дзень пагас... прырода ціха дрэмле,
Ня сплю; начны кашмар мне цісьне грудзі,
Ўспамінаў рой мінулых будзе,
І сэрца ные, волі прагне, надарэмне!...
У аддалі дзесь чутны аркестры тоны
Усё шырацца, плывуць ўдаль і ўвыш,
Да зор, што звыклі слухаць людзей стогны
Спрадвеку, што нясуць пакуты крыж.
Ах, ночка ясная, мар поўная і зморы!
На крыўды й жальбы нашы спакойна ты глядзіш!

**Грынкоўскі.**

## VUČAŃ IKS-IGRYKIEVIČ.

Otož vučań, oto chvat,
Ŭsiu kasuje klasu!
Da navuki vielmi rad,
Dy... škaduje času.
Tonki, doŭhi, jak majak;
Jak nia śpić, dyk chodzie.
Čub nia stryžan, jak viatrak, —
Ŭsio pa novaj modzie.
Dalikatny, jak miadźviedź:
Tut-i-siud, padskoča;
Ci burčyć, ci štoś žuječ,
Dyj uściaž bałboča.
A tancuje, jak toj koń!
Iskry bje z padłohi;
Łoŭki, šustry, byccam słoń, —
Topča dzieŭkam nohi.
Jazykom tak vostra tnie,
Jak-by šyłam, brytvaj;
A hulać kali pačnie,
Spravu končyć bitvaj.
Što prafesaru skazać,
Z rodu jon nia znaje;
A jak stanie vydumlać,
Samy, baśni baje.
Pałacinie tak čytaŭ,
Što až pył kuryŭsia:
Choć kapu „klučoŭ“ dastaŭ,
Sensu nie dabiŭsia.
Da niamieckaha, jak had,
Duža byŭ jon łasy:
Dvojki braŭ i braŭ pad rad,
Navat „z plusam“ časam.
Geografiju tož znaŭ —
Reki, krai, hory:
I Aŭstralii šukaŭ
Na Bałtyckim mory.
Da historyi pryvyk,
Z karalami znaŭsia,
Červień, bubny, tref i pik —
Za ich časta braŭsia.
Čytaŭ-bekaŭ, jak aŭca,
Pisaŭ navat vieršy:
A u polskim byŭ z kanca
Vučań samy pieršy.
Akulary pryčapiŭ,
Papiarosku ŭ zuby;
Chmaru dymu jak puściŭ, —
Heroj našaj štuby.
Dyk prafesary za im
Prosta prapadajuć;
Jak zasiaduć, ab nikim
Bolej nia hukajuć.
Matematyk kaža: „dreń!“
K‘ dvojcy stavić minus:
„Nie adroźnić, jak toj pień —
Sinus ci kosinus!“
Tut usie pačnuć kryčać,
Jak pačuli heta:
„Budziem my jaho trymać
Da skančeńnia śvietu!“
Z klasy pryjdzie, knižki ŭ kut
Zara ŭsie adkinie:
Lažać buduć cełу tut —
Zaŭtra ich padymie.
Pierakinie karty dźvie,
Siedziačy pry miscy:
Dyj paradak ŭ hałavie,
Jak ŭ padranaj knižcy.
Da kaścioła anijak
Ŭsio nia moh prybracca:
A kruciŭsia tak i siak —
Doma kab astacca.
Šapku čyścić rukavom,
Pora miž zubami;
Ŭsio raźviernie k‘ vierchu dnom,
Tak śpiašyć časami.
Wot nareščie palacieŭ,
Panie dabradzieju!
Trapiŭ dobra, choć spacieŭ —
Až... na „Agnus Dei...“

**V. Adv.**

* * *

Ґмахі плывуць у блакітныя змрокі,
Быццам у прыстань на ноч караблі.
На‘т няпрыкметна з нябёсаў далёкіх
Зоркі да дахаў бліжэй падплылі.

Вечар.
Зьнямога.
Здалёк самаходы шпарка прыбеглі —
Спачыць ля вітрын.
Гоман людзкі (гэткі плаўны і згодны)
Моўчкі глытае вячорная сінь...
Быццам трывогу ад сэрца аднялі,
Подыхам сьвежасьці думкі ўзьнялісь...
Час — калі ў вулках — блакітныя далі
Й змрокі дрыжачыя клічуць кудысь.
Хутка пальюцца ў шчарнеўшыя высі
Тысячы крыкаў і вогненных зьмей...
Вечар кароткі, пяшчотны! — туліся
Да загарованых нашых вачэй...

**Хведар Ільяшэвіч.**

НА МЕСТАВЫМ БРУКУ...

Я тут радзіўся, тут узрос
На гэтым шэрым бруку,
Ня даў чуць песень жніўных лёс,
Ня чуў я песень — пошум кос, —
Я места поўны груху...
О, Вільня, Вільня! Колькі раз
На брук твой ліў сьлязу я,
Згубіў тут веру ў волі час,
На бруку тлеў, памалу час,
Ды ўсё-ж цябе люблю я...
О, Вільня, — сын твой родны я —
Мяне ты ўзгадавала;
Ня раз мне матчыхай была,
Ды прывучыла да жыцьця,
І вымагаць так мала...

**Ч. А.**

# Šrom.

Imhliŭ drobnieńki vasieńni doždžyk, duŭ davoli silny viecier... Panura vyhladaje vioska ŭ takuju paru, usiudy hraź, ani prajšci, ani prajechać, całymi dniami nia vidać sonca, nieba zakryta viečna pływučymi chmarami.

Karotki vasieńni dzień užo chiliŭsia da viečara, kali Šrom išoŭ da miastečka. Byli Zaduški i jon chacieŭ być na mohiłkach, nie dziela taho, kab pamalicca, a bolš dziela taho, kab tam spatkać Varuśku, bo viedaŭ, što jana pajšła na hrob svajej maci i jašče nie viarnułasia. Jon išoŭ davoli šparka, choć i ślizhalisia jahonyja nohi, abutyja ŭ chadaki, anučy užo dobra pramokli i takija-ž mokryja aborki ŭrezalisia až da cieła. Kapota jahonaja była dziŭnaha kroju i koleru, jon jaje kupiŭ ad panskaha furmana. Z-zadu jana mieła vialiki rasporak i była

davoli stareńkaj. Ciapier viecier raskidyvaŭ hetyja poły na baki: mała jana hreła. Paryžeŭšaja ad sonca, z vuzkimi rukavami i aborvanym kaŭniarom, vyhladała jana na niejki žydoŭski łapsardak. Dy i sam Šrom, kab nia łapci (žyd nikoli nia nosić łapciej), byŭ padobny da žyda.

Šrom redka kali chadziŭ da kaścioła: bo ŭ jahonaj vopratcy zaŭsiody ludzi znajšli niešta śmiašnoje i časta z jaho padkpivali. Ciapier jon dumaŭ spatkać mała ludziej, bo było užo daŭna pa nabaženstvie, a prytym i ciemnavata. Kali, adnak, pryšłosia jamu z kim spatkacca, to jon paśpiašaŭsia, choć i tak išoŭ chutka, kab skarej raźminucca i nie źviarnuć čyjej uvahi. Doždž to pierastavaŭ na chvilinu, to začynaŭ lić iznoŭ, to pierachodziŭ u niejkuju drobnuju imhłu i Šrom dobra źmierz, pakul dajšoŭ da miastečka. Jon minuŭ kaścielnuju bramu i chutka apynuŭsia na mohiłkach. Užo źmiarkałasia, i na mohiłkach, zdavałasia, nikoha niama. Šromu zrabiłasia žutka.

Šumieli drevy, strasajučy z svaich hołych halin bujnyja ślozy kapli na pažoŭkłaje na ziamli liście, na kryžy, na mohiłki, byccam płačučy pa niasčasnych źmieršych. Šrom pieražahnaŭsia i pačaŭ malicca. Na chvilinu viecier zacich i jon pačuŭ hdzieś čyjść płač. Šrom chutka pašoŭ u tuju staranu i skora ŭbačyŭ niejkuju postać, upaŭšuju na kaleni i abapiortuju na maleńki mahilny kryžyk rukami. Jana naŭzryd płakała i tolki čas ad času šaptała: „Ach, maci, maja maci darahaja, zabiary mianie z saboju."

Heta była Waruśka.

Šrom uvieś zatrośsia. Jon skora padyjšoŭ da jaje i takža łaskava, jak jana kališ, da jaje prahavaryŭ: „nia płač, Waruśka". Jana, bystra ustaŭšy, abiarnułasia. Na tvary jaje bliščeli jašče nieabsochšyja ślozy. O, što jon daŭ-by, kab jaje moh čym paciešyć! Hora adnak Varuśki, vidać, było vialikaje, a jon taki biedny, taki mizerny, apračа hetaj svajej pracy, sto davaŭ panu, ničoha nia mieŭ, a pan za jaje bolš nie zapłacić, čymsia dahetul płaciŭ, choć-by ty pracavaŭ i ŭdzień i ŭnočy. Praŭda, jon jašče mieŭ u sercy luboŭ da Varuśki i moh jaje paciešyć dobrym słovam. Dziva, jon da jaje chacieŭ bolš prahavaryć, adnak nia moh padabrać słoŭ. Ad prыrody niaśmieły, mała havarki, ciapier susim zaniamieŭ. Jany stajali niekalki chvilin moŭčki, byccam bajučysia narušyć cišyniu na hetym cichim miejscy viečnaha snu. Prahavaryła pieršaja Waruśka:

— Čaho ty Šrom siudy pryšoŭ?

— Ja, vidziš, chacieŭ spatkacca z taboj.

— Jašče moža nas tut chto ŭhledzić i pośle budzie śmiajacca — skazała Varuśka.

— A ty znaješ, Varuśka, čaho ciapier ludzi śmiajucca z ciabie?

— A čaho?

Šrom zamoŭk i nia moh adkazać ni słova. Jany pakinuli mohiłki i doŭha jšli moŭčki.

— Čaho, ty Šrom, maŭčyš? — spytała Varuśka.

— Bo, vidziš, ty bo znaješ, Varuśka, učora mnie prachodu nie dali, dakučajučy, što ty z panam akanomam niešta tam, tam... — nia moh jon dakončyć. — Ci heta praŭda?

Varuśka ŭ adkaz tolki ŭzdychnuła i začała chutčej iści; zdavałasia, što jana nia choča z im havaryć. U hałavie Šroma była adna tolki dumka, adno tolki pytańnie: „ci to praŭda?" Varuśka tolki moža dać na heta adkaz, a jana maŭčyć. Jon iznoŭ zdabyŭsia na śmiełaść i spytaŭ jaje łaskava: Varuśka, skažy, ci heta praŭda? Jana zakryła tvar rukami i sa ślazami ŭ hołasie adkazała: „Ach, nia pytajsia, nia pytajsia" — i pabiehła ad jaho... Niachaj ziamla rasstupicca, jana nia skaža nikomu nikoli. Matulka tolki viedaje tam u hrobie ležačy, jana jej ščyra vyskazała ŭsio svajo hora, uvieś svoj styd; niamiły jej śviet i nichto na śviecie. Niamašaka dla jaje žyćcia. Jana viedaje, što Šrom jaje lubić, dy što-ž z taho? Ni jon jej, ni jana jamu: raździalaje ich niejkaja ciomnaja chmara, niejki ciažar ciahnie jaje ŭ propaść, poŭnuju brudu, iz katoraj niama pavarotu. Začynić vočy na viek, kab nia bačyli bolš śvietu biełaha. „Boža, Boža! Ty vidziš, što ja nievinavata, nia sudzi mianie tak, jak sudziać ludzi!" — šaptała Varuśka...

Źviesiŭšy hałavu na hrudzi, išoŭ Šrom, čuć ciahnučy svaje byccam ałavianyja nohi. Varuśka tak chutka pabiehła, što jon skora astaŭsia adzin z svaimi tolki dumkami.

Stahnaŭ bor, šumieli drevy, duŭ, śvistaŭ viecier, płakała nieba, zakryłasia sonca, zorki, usio kruhom paciamnieła: usio, vidać, chacieła vyskazać Šromu spahadnaść, spačuŭście. Ech, uzdychnuŭ ciažka Šrom i jamu ŭ adkaz: „Ech, ach" zastahnaŭ bor; „huuu", zaśvistaŭ viecier. Praŭda, praŭda,—daloka skulś razlahajecca „krum" krumkačova.

(Kaniec). J. B—na.

---

# Jak być zdarovym.

Nia dosyć kryšku viedać, jak šanavać svajo zdaroŭje, ale treba taksama viedać, z čaho paŭstajuć chvaroby i začym čałaviek chvareje. A časta—husta zdarajecca na siale, što kali chtoś zachvareje, to kažuć: „jaho ŭrakli, na jaho hlanuŭ toj i toj, a ŭ jaho błahoje voka, jamu ci jej paddali, začaravali, źvier niešta drennaje chvoramu zrabiŭ, abo čort u chvoraha ŭlez". I tak uračy, pavodle hetych ludziej, nadta lohka dziaciej,

bo im, padobna, nadta škodzić błahoje voka, paddać napr. moža dziaŭčyna malcu i naadvarot, začaravać mohuć tolki čaraŭniki i čaraŭnicy." Dalej, kali chto kryčačy na vaŭka achryp,— bo za silna kryčaŭ, — to heta „voŭk mieŭ niešta drennaje jamu zrabić." Ćviardziać tak-ža hetyja ciomnyja ludzi, što ŭ ich npr. „u hrudzioch piatuch piaje" — a tam chvoryja lohkija hrajuć, abo što „vužak u siaredzinu zalez" i h. p. Jość h_ta ŭsio fantazija i samaabman, bo i sapraŭdy prosty i niavučany čałaviek nia moža sabie ŭjavić, jak i adkul biarecca chvaroba. Lečucca ludzi taksama fantastyčna i nierazumna. Voś trochletniaje dzicio źlahło, chvareje, haračkuje. Aha!.. heta N. urok svaim vokam. Biahuć da baby-znacharki, kab dała vady, chleba. Taja zahavarvaje i daje. A bolš umiełyja i „nabožnyja" znacharki robiać try kučki soli, uniadolikam značać na ich kryžyki, chryściacca, niešta šepčuć i sol heta maje nadta pamahać.

Dalej dzicio spužaŭ sabaka ci jakiś čałaviek. Dyk „pacijenta" staviać rakam pasiarod chaty i padsovyvajuć pad jaho skvaradu z haručymi vuhlami i na ich sypluć pavučynu, suchoje pamiało, ziołki i samaje najhałaŭniejšaje—kusłacik šerści taho sabaki (abo čałavieka), jaki spužaŭ dzicio. Heta „inhalacyja" choć nie naležyć da pryjemnych, ale mała jość na vioscy takich ščaśliŭcaŭ, što jaje nie paprabavali.

Dalej voś pryšoŭ susied, pasiadzieŭ i pašoŭ. Paśla taho dzieci ŭ hetaj chacie zachvareli. Nu, to chto padnios chvarobu, paddaŭ jaje? Tut mahčyma, što susied moh zarazki pryniaści. Ale voś „dziaŭčyna taksama moža chłapcu „paddać," što toj ad jaje na krok nie astaniecca." I tut jość znachary i čaraŭniki*) Dajuć jany svaim chvorym pić usiakija brydoty, jak np. adpadki čałaviečyja, sała čornaha sabaki, da ran prykładyvajuć žabu, kažuć chvorym 2 hadziny hladzieć u vadu, bo ŭvidziać taho čałavieka, što im daŭ chvarobu, nasić z saboj u nasurcy siemia (lenavoje) i h. p. Usio heta jość abman i šulerstva, kab tolki ŭ znachara pahrubieŭ kišeń. Pałkaj treba prahnać takoha žulika ad siabie, a pračytaŭšy dobruju knižku, treba lačycca tak, jak radzicca, abo ŭdacca da dochtara, ci felčara.

Treba sabie dobra ŭciamić, što kožnaja z a r a z n a j a chvaroba paŭstaje ŭ čałavieka ad zarazkaŭ, jakija dastajucca ŭ arhanizm. Zarazki hetyja, np. tyfus ci suchot, tak małyja, što pabolšyŭšy ich vyhlad praz mikraskop u 1000 razoŭ, vidzim ich, jak maleńkija, 3 mm. doŭhija kresački. Voś hetyja zarazki, jak čarviački, točuć čałavieka, a lepš — jaho nutro, i vydzialajuć pry hetym jady, zvanyja toksynami, jakija zatručvajuć čałavieka.

Ad chvarob zaraznych treba adrožnić chvaroby niezaraz-

*) Adzin voś taki pradstaŭnik ciemry žywie ŭ vioscy Ryžych, Drujsk. Vol, Brasł. pavietu. — varožyć na vadu.

nyja, jakija paŭstajuć ź niadobraj pieramieny materyi i chvaroby nervovyja. Čałaviek np. zanadta chudzieje, sycieje, skura bjecca ŭ plamy, vielmi pužajecca, pry nerv. chvarobach denervujecca, unočy nia śpić, što-niebudź jamu zdajecca, a moža i zusim zdurnieć. I byvaje, što taki chvory ŭvažaje siabie za praroka, za karala, za vučonaha, i pačynaje tak razumna havaryć, jak treba jaho asobie. Časam tak jon štoś placie, što nichto ničoha nie razumieje, a ciomnyja ludzi kažuć tady, što heta čort, zły duch ulez u jaho. I pačynajuć chvoraha śviancić, malicca nad im, ciahnuć jaho da papa, ksiandza, a na't da japiskapaŭ. Chvorych takich nia treba biespakoić, a najlepš, viedajučy, što jon chvory, pakazać jaho dochtaru psychiataru i nie narakać na nijakija tajemnyja siły.

Ad sposabaŭ lačeńnia šaptunoŭ treba adroźnić sposaby lačeńnia niekatorych praktyčnych ludziej. Wiedama, što ad brucha pamahaje arnik, a ad prastudy — lipovy ćviet i h. d. Dyk voś heta i radziać praktyčnyja ludzi, nie dadajučy „dźvie hadziny hladzieć u viadro vady." Bo i ŭ aptecy šmat lakarstvaŭ jość z ziołak i karanioŭ. Tolki zaŭsiody treba nie pierabrać miery, bo možna atrucicca abo padtrucicca. Adnak np. dziaciej paić zialonym makam, „kab spali", nia možna, bo vyrasšy buduć durnyja. **Stud. med. J. M.**

# Da nas pišuć.

## ALBERTYN KALA SŁONIMA I BIEŁARUSKAJE PRADSTAŬLEŃNIE.

Albertyn kala Słonima — heta biełaruskaja pramysłovaja miaścina, pałožanaja na ziemlach hrafa Pusłaŭskaha. Da vajny pracavała tut niekalki fabrykaŭ: —zapałčanaja „Ščara," jedvabnia, fabryka elektryčnych lampačak, tartak, hvaździelnia i inšyja. Dla pieravozu tavaraŭ ad Słonima da Albertyna była praviedziena bočnaja kaleja. Było tut mnoha rožnych fachoŭcaŭ i ramieślnikaŭ, jakija źjaždžalisia siudy z usich staron na zarabotki i asialalisia na specyjalna pryznačanych hrafam Pusłaŭskim parcelach. Žyccio płyło davoli žyva, ciapier adnak jano zamiorła i z usich pramysłovych albertynskich pradpryjemstvaŭ pracuje tolki adna papiernia i to nieakuratna.

Žychary Albertynskija—pa nacyjanalnaści biełarusy i davoli cikaviacca biełaruskim adradženskim rucham. 11.VIII. s.h. adbyłosia tut pradstaŭleńnie, stavili „Paŭlinku" J. Kupały i „Zaručyny Paŭlinki" Fr. Alachnoviča. Pradstaŭleńnie ładziła dramatyčnaja sekcyja „Związek Młodzieży Polskiej," udzieł-ža brali ŭ im nia tolki biełaruskaja moładź, ale i ludzi darosłyja. Naahuł artysty-amatary pjesu adyhrali dobra, asabliva dobra adyhrali svaje roli Krynicki, Pustarevič, Ahata i Jakim Sa-

roka, jaki prytym pryhoža tancavaŭ „Lavonichu i hapaka", horš trocha hrała Paŭlinka, Alžbieta i muzykanty, ale na pierčy raz ichniaha vystupleńnia na scenie možna im heta vybačyć. Pamima taho, što pjesy hetyja stavilisia tut užo druhi raz i što tutejšyja vyšejšyja kiraŭničyja koły starajucca našu moładź spalanizavać, zacikaŭleńnie pradstaŭleńniem było vialikaje, tak, što i pry tannaj canie biletaŭ (ad 20 hr. da 1 zł.) sabrali 61 złot.

Pažadana było-b, kab biełaruskaja albertynskaja moładź zasnavała Hurtok Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury i dalej paviała tak patrebnuju kulturna-praśvietnuju pracu ŭ svajej staroncy pad ściaham svaje biełaruskaje arhanizacyi.

„V o ŭ k".

## ZAPISWAJCIESIA Ŭ SIABRY BIHiK.

**v. Charki**, Postaŭskaha pav. Moładź u našaj staroncy mała rupicca ab palepšańni svajho maralnaha i materjalnaha pałažeńnia, a pieravažna starajecca, jak tolki maje krychu svabodnaha času i paru hrašoŭ, vypić, pahulać dy pabicca. Kali-ž hrošaj na harełku niama, dyk tady honie samahonku, za što paśla palicyja nakładaje na ruki łancužki i sadzić u vastroh, jak heta było niadaŭna u v. v. Mamienščyna, Halubieja i inš.

Voś-ža biełaruskaj moładzi nielha takimi rečami zajmacca, dy jašče ŭ ciapierašni ciažki čas, — nam treba pracavać nad adradžeńniem svajho narodu i svaje Baćkaŭščyny. Pracu hetu my možam viaści tolki sarhanizavaŭšysia ŭ svaich biełaruskich kulturna-praśvietnych arhanizacyjach. A my voś jakraz majem niadaŭna arhanizovany ŭ vioscy Charkach Hurtok Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury, jaki patrabuje pracaŭnikoŭ na kulturnaj nivie i jaki pry pomačy Centralnaha Uradu Instytutu patrafić paviaści hetuju pracu.

Dyk zapisvajmasia ŭ siabry Hurtka Bieł. Instytutu Hasp. i Kultury i pracujma družna dla ahulnaha dabra biełaruskaha narodu, a hetym samym zdabudziem i sabie lepšuju dolu!

M. B i a z d o m n y.

---

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

1.500.000 б е л а р у с а ў. Паводле апошняе перапісі насельніцтва, якое адбывалася ў 1931 годзе, у сучаснай Польшчы налічаецца больш-менш адзін мільён пяць сот тысяч беларусаў. Як гэта перапісь адбывалася, усе мы добра ведаем, і тут можам адно дадаць, што і не без падстаў беларусы самых сябе ў сучаснай Польшчы налічаюць два з паловай мільёны.

Культурная праца на правінцыі. — Шальцінскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (Браслаўшчына) наладзіў у сваей вёсцы тры лекцыі. 21.VIII. с. г. чытаў лекцыю студ. А. Аніськo аб „Патрэбе роднай школы,“ 21.IX. с. г. студ. Я. Малецкі чытаў „Аб мэце і заданьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.“ і 27.IX. чытаў лекцыю той-жа студ. Аніська „Аб соцыолёгіі.“

— 11.IX. с. г. Стаўпецкае Дабрадзейнае Т-ва ладзіла у Стоўпцах канцэрт беларускай песьні, у часе якога—апрача стаўпецкага выступаў і беларускі хор з Новага-Сьвержаня.

— 28.VIII с. г. ў Альпені каля Давідгарадка стараньнем беларускае моладзі, а так-жа і старэйшага грамадзянства, наладжана было беларускае прадстаўленьне; ставілі п‘есу „Выбары старшыні“ — Янкі Быліны.

На лекцыях, канцэрце і прадстаўленьні людзей было многа.

15-ыя угодкі „Беларускай Крыніцы.“ 8-га кастрычніка с. г. мінула 15 гадоў ад часу, як у Пецярбурзе паказаўся на сьвет першы нумар „Крыніцы“.

„Беларуская Крыніца“ зьяўляецца цяпер найстарэйшай беларускай часопісяй, якая безперарыўна выходзіць ад пачатку свайго залажэньня і паміма цяжкіх варункаў стойка бароніць інтарэсаў беларускага народу ўва ўсіх галінах.

„Беларуская Крыніца“ за час свайго існаваньня была 32 разы канфіскавана, раз закрывана, рэдактары-ж яе былі па некалькі разоў суджаныя, а арцыб. Ялбжыкоўскі забараніў каталіком яе чытаць. Аднак усё гэта яна вытрымала, маючы за сабой беларускія масы. Дык няхай-жа і надалей яна жыве і разьвіваецца.

Суд над рэдактарам „Бел. Крыніцы.“ 15.IX. с. г. у Віл. Гарадзкім Судзе разглядалася справа рэдактара „Бел. Крыніцы“, гр. Я. Пазьняка, па канфіскаце № 20 з сёл. году, а 15.X. — па канфіскаце № 43 з 1931 году. У абедзьвюх гэтых справах суд рэдактара Я. Пазьняка апраўдаў.

Суд над б. паслом Б Тарашкевічам мае адбыцца ў Віленскім Акружным Судзе 28 лістапада с. г. Разам з справай Тарашкевіча мае разглядацца справа яшчэ некалькіх беларускіх юнакоў, б. вучняў Віл. Бел. гімназіі.

„Т. Б. А.“ Беларускія полёнофілы у Вільні, збанкрутаваўшы на „Цэнтрасаюзе,“ арганізуюць цяпер „Таварыства Беларускае Асьветы.“

**З выдавецкае нівы.** — „Самапомач“, беларуская коопэратыўна-гаспадарчая часопісь (месячнік), № 1 выйшла

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАИ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і М. Пяцюкевіч.*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Язэп Найдзюк.**

з друку і паступіла ў прадажу. Зьмест часопісі багаты, цікавы і прыстасаваны да часу; селянін-земляроб у ёй можа знайсьці цэнныя гаспадарчыя парады, а інтэлігент—пазнаёміцца з асновамі і варункамі грамадзкае працы. Часопісь рэдагуецца інж. Ад. Клімовічам і заклікае ўсё беларускае грамадзянства да супольнае працы над падняцьцем беларускай народнай гаспадаркі шляхам коопэратыўнай самапомачы. Бязумоўна, кожны беларус, які цікавіцца гаспадарчым адраджэньнем свайго краю і якому гэта справа ляжыць на сэрцы, павінен выпісаць, пашыраць, супрацоўнічаць з гэтай часопісяй і падтрымліваць яе. „Самапомач" друкуецца гражданкай і лацінкай і высылаецца толькі пасьля атрыманьня пісьменнага заказу. Падпіска на год каштуе 3 зл., на паўгода — 1.75 зл., на 3 месяцы — 1 зл. Цана асобнага нумару 40 гр. Грошы трэба слаць на чэкавае конто П.К.О. (konto czekowe P.K.O.) інж. Клімовіча № 180.485. Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня (Wilno), Полацкая вул. 4—10.

„Бюлетэнь Т-ва Беларускае Школы." 28.IX. с. г. вышаў з друку, другі па парадку, як аднаднёўка, „Інфармацыйны Бюлетэнь Т-ва Беларускае Школы", у якім абгаварываецца сучаснае палажэньне Т. Б. Ш. і справа супрацоўніцтва яго з польскімі арганізацыямі і ўладамі ў Беласточчыне.

„Беларускі Адрыўны Календар на 1933 г." выданьня Ул. Манкевіча ўжо выйшаў з друку і прадаецца ў ва ўсіх беларускіх кнігарнях, у гэтым ліку і Беларускай Кнігарні „Пагоня", Вільня, Завальная вул. 6—10. Цана календара 85 грашоў.

Асабістае. 6-га кастрычніка с. г. у касьцеле па-Бэрнардынскім у Вільні кс. др. Ст. Глякоўскі павянчаў сяброўку Рэдакцыйнай Калегіі „Шляху Моладзі" Ізабэлю Тумаш з сябрам тэй-жа Рэдакцыйнай Калегіі Альфонсам Шутовічам.

Маладой пары жадаем шчасьця!

**Беларусы ў Латвіі.** Ліквідацыя беларускай гімназіі ў Дзьвінску. З пачаткам сёлетняга 1932-33 школьнага году, латыскі міністр Кеніньш, ідучы сьледам за польскімі школьнымі ўладамі ў адношаньні да Беларусаў, усімі сіламі стараецца зьліквідаваць беларускую гімназію ў Дзьвінску. Дзеля таго-ж, што няма на гэта ніякіх падставаў, ані праўных, ані моральных, ён зьвярнуўся нават з просьбай аб помач у гэтай справе да палітычнай паліцыі, якая, ясна, да просьбы яго аднеслася прыхільна і павяла ў гэты кірунку працу. Сёлета міністр Кеніньш зьліквідаваў 1-шую клясу; наступныя гады мае ліквідаваць паступова далейшыя клясы. У замен за гэта адчыняе ён у Дзьвінску пры ла-

Przesyłka opłacona ryczałtem.

тыскай гімназіі беларускую філію. Беларускае грамадзянства, а перадусім Т-ва Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі і бацькі няпрынятых 32-ух беларускіх дзетак — кандыдатаў у 1-шую клясу гэтае гімназіі, — усімі сіламі стараюцца ўтрымаць гімназію надалей. Беларуская прэса у Зах. Беларусі востра высказалася супроць гэтага процібеларускага выступленьня міністра Кеніньша, да голасу якой і мы таксама далучаемся.

З выдаецкае нівы ў Латвіі. — Новапаўстаўшае Беларускае Навукова-Краезнаўчае Т-ва ў Латвіі на днях выдала свой статут, паводле якога мэтай Т-ва ёсьць:

1) сабраць матэрыʻялы з беларускае народнае творчасьці ў Латвіі;

2) сабраць тутэйшыя асаблівасьці беларускае мовы і адзначыць ўзаемныя ўплывы беларускае, латыскае і латгальскае мовы адна на другую;

3) скласьці параўнальны слоўнік беларуска-латыска-латгальскі, а калі магчыма, дык зачапіць у гэтых параўнаньнях і мову літоўскую;

4) пакласьці пачатак Беларускаму Этнаграфічнаму Музэю ў Рызе.

— Урад Т-ва „Беларускае Моладзі ў Латвіі“ выдаў у месяцы ліпні с. г. інфармацыйны бюлетэнь п. н. „Апавесьнік“, у якім апісваецца палажэньне і праца гэтага Т-ва.

— Беларускае Выдавецтва ў Латвіі выдала ў Рызе невялічкі сцэнічны твор для дзіцячага тэатру п. н. „У лясным гушчары“ — Фр. Аляхновіча. У гэтай пʻесцы-байцы, выступаюць дзеці, Баба-Яга, страхі, ведзьма, зьвяры і інш. Кніжыца мае 16 бачынак малога фармату і каштуе 40 грашоў. Купіць-выпісаць яе, а таксама і іншыя беларускія кніжкі выданыя ў Латвіі можна ў Кнігарні „Пагоня“ — Вільня, Завальная 6—10.

## Наша пошта.

Я. Вількоўшчыку. Пісьмо і вершы атрымалі — дзякуем, як бачыце друкуем. Просім не забываць.

Я. Б—це. Вершы слабыя і да друку не падходзіць пішэце лепш прозай.

А. Жуку. Вершы атрымалі, па магчымасьці будзем друкаваць. Просім штось напісаць з жыцьця беларускае моладзі ў Вашай староны.

Я. Падавалцы. Вершы слабенькія, пішэце лепш прозай штось з жыцьця беларускай вясковай моладзі.

К. Гвічу. Карэспандэнцыю атрымалі, дзякуем, зьмесьцім у наступным нумары. Просім пісаць часьцей

Грудзінскаму Я „Шлях Моладзі“ высылаем і чакаем падпіскі.

Сякому-Такому. Карэспандэнцыю атрымалі, дзякуем, надрукуем у наступным нумары. Просім не забываць.

З. Кастравіцкай. Вашы вершы атрымалі, слабаватыя і да друку не падходзяць аднак відаць, што Вы маеце паэтыцкія здольнасьць, трэба іх разьвіваць і як найбольш чытаць беларускіх кніжак. Пішэце на тэмы больш агульныя.